**«...САШКА СГРАБАСТАЛ СЫНА ЗА ВОЛОСЫ И УДАРИЛ ЛИЦОМ О СТОЛ...»** ОЧЕРК С.КРАПИВИНА (СТР. 4-5,8)
**В.ВЫСОЦКИЙ О БЕЛАРУСИ.** НЕ ВПОЛНЕ СЕРЬЕЗНЫЙ МАТЕРИАЛ В.КАЗНАЧЕЕВА (СТР. 8)

# Згода

## ПАЛІТЫКА

N 19 (156) • 7–13 ЖНІЎНЯ 2000Г.



Фото IREX/ProMEDIA

## В КРИВЫХ ЗЕРКАЛАХ





ФОРУМЫ ДЫ КВОРУМЫ

## УСЯ БЕЛАРУСЬ З'ЕХАЛАСЯ

**Вадзім Казначэеў**

**Другі Усебеларускі з'езд прызнаў *«не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі»*. На думку многіх, менавіта гэтае рашэнне было найбольш змястоўнай рысаю мерапрыемства: З'езд быў даволі рэпрэзентатыўным (1376 дэлегатаў) — а легітымнай улады ў дзяржаве няма.**

Увогуле прысутных было тысячы са дзьве — а зала сталічнага Палацу культуры «Сукно» змяшчае толькі 900 чалавек, таму шмат людзей месціліся ў праходах на приступках або ў холе, дзе слухалі выступленні праз дынамікі. Экс-прэм'ер Міхаіл Чыгір гаварыў пераважна пра эканамічныя праблемы, падкрэсліўшы, што нават рынкавага сацыялізму ў нашай краіне насамрэч няма, — бо няма ніякага рынку, голы сацыялізм (прычым *«у найгоршым варыянце»*). А Зянон Пазьняк даслаў на Усебеларускі з'езд ліст, у якім засяродзіўся на наступным: перш за ўсё мы не камуністы ці дэмакраты, а беларусы; хто б ні кіраваў Расіяй — яна заўжды будзе імкнуцца нас акупаваць; калі будзе трэба — каб бараніць незалежнасць, возьмемся нават за зброю.

На З'ездзе выступалі шмат хто з творчай ды навуковай інтэлігенцыі — паэт Рыгор Барадулін, гісторык Анатоль Грыцкевіч, акадэмік Радзім Гарэцкі і інш. Дэлегаты атрымалі шэраг вітанняў з-за мяжы, у тым ліку ад чэскага прэзідэнта Вацлава Гавела. ■



Фото IREX/ProMEDIA

На трыбуне З'езда - паэт Ніл Гілевіч

ТЭМА НОМЕРА

## КАДРЫ
### БТ ЎЗНАЧАЛІЎ ЛІДЭР КПБ

**Паўлюк Лось**

**Палітыка кіроўнага рэжыму пераходзіць на рэйкі выбарчай кампаніі. Апошнія зьмены кіраўніцтва БТ — з гэтага шэрагу.**

*«Я ўпэўнены, што ўсе пастаўленыя прэзыдэнтам краіны перад Белтэлерадыёкампаніяй задачы наша каманда пасьпяхова выканае»*, — пракамэнтаваў у інтэрвію БелТА амаль поўную замену кіраўніцтва Белтэлерадыёкампаніі адзіны застаўшыся на пасадзе намесьнік старшыні Уладзімер Ядранцаў. Далей кіраўнік Беларускага радыё разважаў пра звычайную ратацыю кадраў, але словы пра неабходнасьць менавіта пасьпяховага выкананьня задачы паказваюць сапраўдную прычыну «ратацыі» — шматлікія спробы былога старшыні Рыгора Кісяля «асучасьніць» Беларускае тэлебачаньне не далі плёну, аўдыторыя не ідзе ні ў якае параўнаньне з расейскімі тэлеканаламі, а праз год з лішкам жа ж прэзыдэнцкія выбары...

Так, восеньскія выбары ў «палату прадстаўнікоў» ёсьць толькі рэпетыцыяй наступных прэзыдэнцкіх, і асноўная ўвага дзяржаўнай прапагандысцкай машыны мусіць быць накіравана менавіта на іх. Нездарма на селектарнай нарадзе па ўборцы ўраджаю Аляксандар Лукашэнка паставіў ультыматум гаспадарнікам: *«Менск трэба накарміць не пазьней, чым да прэзыдэнцкіх выбараў!»*

**(Заканчэнне на с.2)**

ВІЗЫТ

## СВОБАДА ЗМАГАЕЦЦА ЗА НАШУ СВАБОДУ

**У Беларусь ізноў завітала еўрапейская «тройка».**

У першы дзень жніўня ў Менск прыехала дэлегацыя Парлямэнцкае асамблеі Савета Эўропы (ПАСЭ). У склад дэлегацыі ўвайшлі Кэры Дэвіс зь Велікабрытаніі, Вольфганг Бэрэнд зь Нямеччыны й Сырыл Свобада з Чэхіі. Візыт замежнікаў выкліканы жаданьнем нарэшце вызначцца, ці варта міжнароднай супольнасьці дасылаць сваіх назіральнікаў на парлямэнцкія выбары ў Беларусь.

Перадусім дэлегацыя ПАСЭ сустрэлася са старшынёй выбарчага камітэту Лідзіяй Ярмошынай. Пасьля эўрапарлямэнтары мелі гутарку з прадстаўнікамі партый Кансультатыўнае Рады. На бліжэйшыя тры дні заплянаваныя перамовы зь іншымі прадстаўнікамі ўладаў і апазыцыі.

Вынікі візыту будуць падведзеныя ў пятніцу, — а канчатковае рашэньне ПАСЭ па назіральніцтве за выбарамі абяцаюць прыняць напачатку верасьня.

**Тацьцяна Папова**

## ОСОБЕННОСТИ НАЦИОНАЛЬНОЙ СОЦИОЛОГИИ

**Павел Знавец**
депутат Верховного Совета, член ЦК БСДП

**Актуальность проблемы правдивости различных соцопросов (и, соответственно, степень ангажированности социологических служб) будет существовать всегда. Всегда та или иная часть населения, а тем паче политической элиты, будет испытывать определенное недоверие к результатам всевозможных опросов.**

К сожалению, в Беларуси сложилась ситуация фактической монополии на социологические исследования со стороны отдельных социологических служб, время от времени проводящих по определенным заказам опросы общественного мнения. Многие склонны считать, что результаты таких опросов наиболее близки к истине. А между тем, на мой взгляд, это не совсем так.

Смею утверждать, что именно отсутствие реальной конкуренции со стороны множества независимых от власти и денег заказчиков служб породило нынешнюю ситуацию. А она такова, что вот уже шестой год подряд мы читаем в прессе, слышим по радио и телевидению одно и то же: Лукашенко вне конкуренции, он далеко впереди своих соперников, его рейтинг составляет 40–50%. И если всецело доверять этим данным, то можно предположить, что белорусский народ мыслит иррационально вот уже в течение более пяти лет. Действительно, по тем же опросам 80–90% респондентов жалуются, что жить становится все хуже и хуже, а виноват кто угодно, только не Лукашенко. Скоро четыре года минет, как он разогнал Верховный Совет и живет по собственной конституции, по которой он и царь, и бог, жизнь все ухудшается, а половина народу готова, якобы, и дальше доверять этому «царю». Что-то здесь не так. Не до такой степени белорусский народ глуп, чтобы за пять с половиной лет не понять, что Лукашенко их здорово надул.

**(Продолжение на с.4–5)**

## У ПАМЯЦЬ ЛІДЭРА




На Маскоўскіх могілках (нездалёк ад Курапатаў) пры вялікай колькасці людзей адкрылі помнік Генадзю Карпенку.

У свой час Аб'яднаная грамадзянская партыя вылучала Г.Карпенку ў якасці кандыдата на ролю лідэра аб'яднанай апазіцыі. Генадзь Дзмітрыевіч памёр у 49-гадовым узросце ад інсульту летась у красавіку. Акалічнасці ягонай смерці шмат хто лічыць загадкавымі, а некаторыя наўпрост абвінавачваюць у забойстве Карпенкі цяперашні рэжым.

НОВОСТИ

Кировский суд отказал Василию Старовойтову в иске к колхозу «Рассвет». Бывший руководитель «Рассвета» пытался обжаловать конфискацию у него акций предприятия, которые по закону конфискации не подлежат. Оказалось, Старовойтов вообще не имел права обращаться в суд и отстаивать свои права. В соответствии с Пленумом Верховного Суда Республики Беларусь от 1993 года осуждённый не имеет права обращаться в суд по подобным делам.

Бывшего министра сельского хозяйства Василия Леонова могут освободить по амнистии 11 октября. По словам адвоката Ольги Зуевой, ее подзащитному по закону может быть сокращен срок на один год. Сейчас Леонов сидит в Оршанской колонии усиленного режима.

Министр образования Беларуси Василий Стражев встретился с руководством группы по созданию Национального университета, и не поддержал эту инициативу. По мнению министра, создать новый университет будет очень тяжело — вместо этого нужно продвигать белорусизацию в существующих вузах. Стражев пообещал *«изучить вопрос»* на предмет открытия белорусскоязычных отделений в некоторых вузах с 2001 года и доложить правительству позицию инициативной группы по вопросу белорусскоязычного образования.

Журнал «Архэ» получил официальное предупреждение от Госкомитета по печати и СМИ якобы за несоответствие названия регистрационному свидетельству и более широкую территорию распространения, чем это записано в свидетельстве о регистрации. Кроме этого, Дом Печати отказался печатать очередной номер «Архэ», а госпредприятие «Белкнига» отказалось брать журнал на реализацию — за наличие на обложке обнаженной женщины. Интересно, а санкции газете «Двое» у нас предусмотрены?

В здании Польского Сейма в Варшаве подписана Декларация о сотрудничестве между Рухом возрождения Польши и Консервативно-Христианской партией БНФ. Декларацию подписали Ян Ольшевский с польской стороны и Зенон Пазьняк с белорусской. Жив, курилка!

С 1 августа белорусская железная дорога ввела именные билеты на пассажирские поезда, которые идут в страны СНГ и Балтии.

С 1 августа в Беларуси повышены размеры пенсий. Минимальная пенсия с необходимыми доплатами составит 15 963 рубля. Это почти на 11% выше минимальной пенсии в июле пенсионерам по возрасту, которые имеют 25-летний — а для женщин 20-летний — рабочий стаж.

**Сергей Пульша**

Ракскі дыктатар Садам Хусэйн у кожным буйным горадзе мае палац. Беларускі — таксама. Праўда, лукашэнкаўскія палацы не простыя, а лядовыя. Днямі чарговы лядовы палац пампезна адкрылі ў Брэсце.

Такім чынам, цяпер ужо ў кожным беларускім абласным цэнтры ёсць лядовы палац, пабудаваны за Лукашэнкам. Узвядзенне гэтых важных аб'ектаў, любімых цацак улады — то, відаць, адзіная сфера, дзе назіраецца сапраўдны рост (і ў пераносным, і ў літаральным сэнсе).

**Вадзім Казначэеў**

ІМПРЭЗА

# НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ НА ДЗЕСЯЦІ ХІТАХ




**Дзень Незалежнасьці ў гэтым годзе апазыцыя адсьвяткавала сьціпла й без размаху. Адзінай акцыяй у сталіцы стаўся супольны канцэрт мясцовых рок-гуртоў.**

Дзея, прысьвечаная дзесятым угодкам падпісаньня Дэкларацыі аб сувэрэнітэце Беларусі, хутчэй нагадвала памінкі па незалежнасьці. Ролю масавіка-забаўніка традыцыйна ўзяў на сябе Павал Севярынец. Ен і абвясьціў назоў акцыі: 10 гадоў — 10 хітоў.

Больш як гадзіна спатрэбілася музыкам, каб адстроіць свае інструмэнты. Стомленую чаканьнем публіку забаўляў Севярынец. Пакуль рок-дыназаўры разьміналі свае галасы, нехта распаўсюджваў БНФаўскія «Навіны». Задарма. Паперы перавялі так шмат, што лішкі накладу аддалі (дабраахвотна!) чатыром міліцыянтам — адзіным, хто сачыў за парадкам падчас імпрэзы. Яны ж апынуліся й адзінымі цікаўнымі чытачамі гэтае газэты. Маладзенькія апазыцыянэркі выкарыстоўвалі найсьвяцейшыя друкаванкі, сьцелючы іх на зямлю, пад джынсы.

Урэшце канцэрт пачаўся, і свае намаганьні на разагрэў засмучонага натоўпу кінулі «Млын», «Пост Скрыптум», «Камэлёт», праект «Z». Але большасьці было ўжо не істотна, хто сьпяе чарговы прапахлы нафталінам хіт. Нашыя выканаўцы здолелі ўразіць толькі прадстаўніка чэскае прэсы. Па ягоных словах, якасьць беларускага року адпавядае эўрапэйскаму ўзроўню.

**Тацьцяна Папова**

РЭГІЁНЫ

## ЗАМЕСТ МІТЫНГУ

Мітынг, прысвечаны дзесяцігодзю абвяшчэння суверэнітэту, старшыня Пухавіцкага райвыканкама Г.Шахлевіч па завядзёнцы забараніў. Міліцыя атрымала загад *"принять необходимые меры по отмене мероприятия"*. Аднак, нягледзячы на забарону, сабралася каля 100 чалавек. На патрабаванне начальніка пухавіцкай міліцыі Р.Барысава людзі заявілі, што свята і спевы ніхто не адмяняў. Пасля канцэрту група энтузіястаў з бел-чырвона-белымі павязкамі на галавах і сцягамі на плячах гулялі па гораду. Затрыманняў, на дзіва, не было.

**Алесь Васілевіч**

ВЫБАРЫ

# АДЗІНСТВА АПАЗІЦЫІ:
## ХТО Ў ЛЕС, ХТО ПА ДРОВЫ

Старшыня Партыі працы **А.Бухвостаў**: «Канчатковае рашэнне наконт удзелу альбо няўдзелу ў выбарах партыя прыме на паседжанні свайго Савету. Хутчэй за ўсё, гэтае рашэнне будзе вытрыманае ў рэчышчы агульнай стратэгіі, выпрацаванай на Кансультатыўнай радзе. Трэба байкатаваць выбары, не даць легітымізавацца ўладзе ў тым выглядзе, які яна мае цяпер. Але ў нас у партыі прысутнічае таксама іншы пункт гледжання. На выбары прыдзе шмат людзей, і яны захочуць сапраўды зрабіць выбар. Нават у нелегітымным парламенце павінна быць апазіцыя. Акрамя таго, трэба кантраляваць працэс выбараў, накіроўваць сваіх людзей у выбарчыя камісіі — але пры гэтым не дапусціць, каб прыехалі замежныя назіральнікі з АБСЕ і ПАСЕ, не дапусціць міжнароднага прызнання выбараў легітымнымі. Хутчэй за ўсё, у выбарах будуць удзельнічаць прафсаюзы і незалежныя кандыдаты, а Беларуская партыя працы — не».


Усе на выбары!

Старшыня Партыі камуністаў **С.Калякін**: «Мы возьмем удзел у выбарах, — але фармат нашага ўдзелу будзе вызначаны на з'ездзе партыі 19 жніўня. Існуюць 3 варыянты нашага ўдзелу. Першы — гэта байкот выбараў з тлумачэннем яго прычынаў насельніцтву. Другі — накіраванне сваіх назіральнікаў і прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі з мэтаю зафіксаваць працэсы, што там адбываюцца. І трэці фармат — паўнамаштабны ўдзел у выбарах. Якому варыянту мы аддадзім перавагу, будзе залежыць ад паводзін выканаўчай улады. Мы ўжо накіравалі сваіх прадстаўнікоў у выбарчыя камісіі. Будзем удзельнічаць і ў збіранні подпісаў за вылучэнне кандыдатаў. Паглядзім, ці будзе ціск, перашкоды ў рабоце. Прааналізаваўшы ўсе фактары, мы і прымем на з'ездзе канчатковае рашэнне наконт фармату нашага ўдзелу ў выбарах».

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі **А.Лябедзька**: «28 ліпеня на Палітсавеце партыі абмяркоўвалася нашае стаўленне да фарсу, які называецца выбарамі. Прысутнічалі прадстаўнікі АГП з рэгіёнаў. Яны данеслі пазіцыю рэгіянальных структур. На падставе даных апытання сябраў партыі і рашэнняў рэгіянальных канфэрэнцыяў можна зрабіць выснову, што ад васьмідзесяці да дзевяноста працэнтаў нашых сябраў супраць любога ўдзелу ў гэтак званых выбарах. Таму Палітсавет партыі на сваім паседжанні вырашыў, па-першае, не браць удзел у выбарах; па-другое, звярнуцца да міжнароднай супольнасці з заклікам не пасылаць назіральнікаў і не прызнаваць гэтыя выбары; і, па-трэцяе, звярнуцца да сваіх саюзнікаў па дэмакратычным блоку з прапановай байкоту выбарчага фарсу».

Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная грамада» **М.Статкевіч**. «Пытанне пра няўдзел партыі ў выбарах ужо фактычна вырашана. З'езд БСДП «НГ» сфармуляваў умовы ўдзелу сацыял-дэмакратаў ў парламенцкіх выбарах, потым гэтыя ж умовы былі падтрыманыя Кангрэсам дэмакратычных сілаў (яны супадаюць з чатырма ўмовамі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе). Паколькі ніводная з іх не была забяспечаная, — дык мы і не будзем браць удзел у выбарах. Таксама партыя не збіраецца выстаўляць сваіх назіральнікаў, уключаць сваіх сябраў у склад выбарчых камісіяў. Але мы не можам забараніць нашым сябрам уваходзіць у выбаркамы ад іншых грамадскіх арганізацыяў. Кантроль за выбарамі абавязковы, бо як мы інакш здолеем даказаць несумленнасць выбараў?»

Намеснік старшыні Беларускага народнага фронту **Ю.Хадыка**: «Партыя БНФ не будзе браць удзел у выбарах, як, спадзяюся, і нашыя саюзнікі па дэмакратычнай апазіцыі. Я зраблю ўсе магчымае, каб памяняла сваю пазіцыю да ўдзелу ў выбарах і Партыя камуністаў Калякіна. Таму што іх удзел падарве давер да адзінага легітымнага органа — Вярхоўнага Савета, які зараз дае нам магчымасць эфектыўна камунікаваць з дэмакратычнымі ўрадамі Заходняй Еўропы. Калі партыі пойдуць на выбары, яны ставяць крыж на Вярхоўным Савеце. Байкот — гэта таксама форма ўдзелу ў выбарах. Калі мы зараз не прымусім Лукашэнку выканаць чатыры умовы, сфармуляваныя апазіцыяй і падтрыманыя міжнароднай супольнасьцю, а нягледзячы ні на што будзем удзельнічаць у гэтым фарсе пад назовам «парламенцкія выбары», дык потым ён, зразумела, не зменіць умовы і перад прэзідэнцкімі выбарамі. Калі ж мы не пойдзем — захаваецца магчымасьць яго прымусіць. Гэта, канешне, справядліва толькі ў выпадку, калі Лукашэнка хоча дамагчыся міжнароднага прызнання, калі не хоча адкрыта паказаць, што будуе дыктатарскі рэжым» ■

ТЭМА НУМАРУ

# КАДРЫ

(Пачатак на с.1)

Але вернемся да кадраў. Былы кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Рыгор Кісель быў узяты на гэтую пасаду Аляксандрам Лукашэнкам з рэдакцыі газэты «Могилевские ведомости» і з 5 жніўня 1994 г. верай і праўдай служыў кіроўнаму рэжыму. Чаго толькі каштуе недазваленьне другой асобе ў дзяржаве — старшыні Вярхоўнага Савету XII скліканьня Мечыславу Грыбу — выступіць на БТ з заклікам да выбаршчыкаў узяць удзел у выбарах? А пазыцыя БТ падчас лістападаўскага рэфэрэндуму 1996 г.? Аднак бездапаможнасьць кіраўніцтва БТ у барацьбе за аўдыторыю прымушае Аляксандра Лукашэнку адхіліць заслужанага земляка ад пасады.


Фота IREX/ProMEDIA
Неацэнны тэлівізійны кадр

Прыходзіць час маладых беспрынцыпных хлопцаў, якія здольныя рабіць шоў і не баяцца круціць на БТ «папсовае» кіно. Першай ластаўкай у гэтым сэнсе быў Ягор Хрусталёў, якога нядаўна прызначылі генеральным прадзюсэрам Белтэлерадыёкампаніі. Сп. Хрусталёў сапраўды здолеў крыху падняць рэйтынг БТ, аднак гэта была толькі частка задачы. Дзяржаўнае тэлебачаньне ў Беларусі мае найперш прапагандысцкую функцыю. Таму адразу пасьля адстаўкі 21 ліпеня Рыгора Кісяля «бэтэшнікі» зьвярнулі ўвагу на галоўнага «рэзанатара» Аляксандра Зімоўскага.

«Рэзанатар» мае бясспрэчныя заслугі перад кіроўным рэжымам — ледзь ня ўся брудная праца ішла празь ягоныя рукі. Магчыма, гэты фактар, а таксама месца нараджэньня перашкодзілі Зімоўскаму зрабіцца старшынёю Белтэлерадыекампаніі — 26 ліпеня ён быў прызначаны проста намесьнікам старшыні. Тым часам першым намесьнікам старшыні зрабіўся зямляк Лукашэнкі Ягор Рыбакоў (які, нягледзячы на малады ўзрост, ужо кіраваў Маглілёўскім абласным тэлерадыёаб'яднаньнем, а піраміду БТ узначаліў першы сакратар Кампартыі Беларусі Віктар Чыкін, які да мінулай серады быў намесьнікам старшыні Менскага гарвыканкама і адказваў за накіраваньне ўсіх апазыцыйных вулічных акцыяў на плошчу Бангалор.

Можна ўявіць сабе наступны падзел працы новым кіраўніцтвам БТ: Ягор Хрусталёў будзе працягваць забаўляць гледачоў рознымі відовішчамі, Аляксандар Зімоўскі — ачмураць іх прапагандай, Ягор Рыбакоў — кіраваць творчым працэсам, а Віктар Чыкін будзе выконваць двуадзіную функцыю рэтрансьлятара найвышняй волі і камісара-цэнзара.

Падначаленыя сп. Чыкіну творчыя асобы схільныя захапляцца, а новы старшыня БТ, нягледзячы на схільнасьць да алькаголю, заўсёды трымаецца генеральнай лініі партыі ўлады. Адзіная палітычная хіба за ўсю кар'еру Віктара Чыкіна — у жніўні 1991 г. ён, не зважаючы на правал путчу, так ірваўся на працу ў свае партыйныя апартамэнты, што ўрэшце рэшт дапамог трапіць туды міліцыі, якая і апячатала апошні аплот камунізму ў беларускай сталіцы. Застаецца спадзявацца, што й на пасадзе кіраініка БТ Віктар Чыкін таксама калі-небудзь дапаможа дэмакратычным пераўтварэньням. ■

# НЕ ТАК СТРАШЕН ЧИКИН...

**Фил Донахью**

**Вопреки стенаниям демократов, трактующих кадровые рокировки на БТ как зловещие знаки наступающей реакции, смена Киселя на Чикина вызвала среди части сотрудников Белорусского телевидения прилив неуемной радости.**



Чтобы понять корни народного ликования, надо знать особенности БТ. Прибегая к аллегории, здание на Макаенка — живой уголок старого доброго советского прошлого. Это в странах с эфемерной демократией телевизионщики напрягаются, «папаращят» за знаменитостями, сливают компромат, за что забугорные урки их отлавливают в подъездах и бьют по голове монтировками. У нас, как говорят, «по ящику — полный отстой».

Заменителем крупных гонораров, которые получают телевизионщики на НТВ или на ОРТ, в среде бэтэшников является комфорт дружеской компании, социальная стабильность и халтурка — одним словом, ассоциативный ряд советского образа жизни.

Неудивительно, что людям с «совковым» менталитетом неосознанно нужен был руководитель с адекватными взглядами. Григорий Кисель, как полагают некоторые работники БТ, был чужеродным полипом на теле трудового коллектива.

Если искать прообраз бывшего председателя БТ Киселя, на ум приходит фигура бывшего председателя советского КГБ (а впоследствии генсека) — Юрия Андропова. Следуя заветам старого чекиста, Григорий Кисель обязал всех являться на работу и уходить с нее вовремя. А чтобы не филонили, велел отмечаться в специальных гроссбухах. Это творческих-то работников, почти гениев!

Не жалуя традиции, он каленым железом выжигал пьянство — родимое пятно развитого социализма. Народ роптал — ведь никаких иных стимулов для повышения творческого тонуса на БТ нет.

Поэтому когда год назад по курилкам прошелестел слух, что Киселя будут снимать — что греха таить, многим жизнь показалась не такой уже и напрасной. Правда, испустив первый вопль радости, стали терзаться тревожными сомнениями — не поменяют ли шило на мыло. Наиболее реальным кандидатом на кресло директора БТ был Зимовский, вхожий во все кабинеты резиденции Лукашенко как к себе домой. Он пользовался у коллектива репутацией беспощадного технократа-эксплуататора. Кстати, Зимовский тоже не пьет.

Борьба под ковром закончилась в пользу Чикина. Это — совсем другое дело. Даже внешне он напоминает патриархального советского хозяйственника, который запросто входит в нужды людей и блюдет как зеницу ока советские ритуалы.

Что касается какого-то зажима гаек, то, поверьте, тут опасаться нечего. Гайки на БТ закручены до такой степени, что даже при всем желании сделать наше телевидение еще более кондовым — надо здорово постараться. Нет, Чикин — не большевистский фанатик. Если продолжить аналогии с почившими в бозе генсеками, — Чикин скорее напоминает перестраховщика Черненко. Не ждите от Чикина никаких перемен. Смело выключайте телевизор. ■

ДРУЖБА НАРОДАЎ

# БЕЛАРУСКА-КІТАЙСКАЯ ІДЫЛІЯ

**Тацьцяна Папова**

**Намесьнік старшыні Кітайскае Народнае Рэспублікі Ху Дзіньтао вырашыў «*бліжэй пазнаёміцца з краінай, сяброўства й супрацоўніцтва зь якой актыўна разьвіваюцца*». З гэтай мэтай кітайская дэлегацыя наведала Беларусь на мінулым тыдні. Афіцыйныя прадстаўнікі нашае краіны знайшлі шчырае паразуменьне з кітайскім бокам.**



Лукашэнка пакутуе настальгіяй па савецкіх часах (чаго вартая хаця б звычка зьвяртацца да народа ня йнакш як «*таварышы*»). Таму сустрэча з жывым увасабленьнем зруйнаванага на тэрыторыі СНД усеагульнага камунізму сталася для яго вельмі важным выпадкам. На памяць пра надзвычайную палітычную (а для кіраўніка краіны і псыхалягічную) падзею Лукашэнку засталася беларуска-кітайская заява аб умацаваньні ўсебаковага супрацоўніцтва ў XXI стагодзьдзі.

Дакумэнт, падпісаны Ху Дзіньтао, стаўся гарантам таго, што ў наступным стагодзьдзі беларуска-кітайская «дружба народаў» будзе не толькі пашырацца, але й паглыбляцца. Гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва абяцае стацца прыбытковым і для нашае краіны, якая нарэшце знайшла спажыўца свайго мінэральнага скарбу, і для Кітая, якому не стае навуковае базы. Карацей, супрацоўніцтва таксама патрэбна пашыраць і паглыбляць, каб «*яно дасягнула ўзроўню, адпаведнага сяброўскім,, адносінам і эканамічнаму патэнцыялу абедзьвюх краін*». Карысным бакі лічаць супрацоўніцтва ў галінах спорту, турызму, моладзевай палітыкі, сродкаў масавае інфармацыі.

Кітайскія прадстаўнікі з уласцівай ім дыпляматычнасьцю выказалі павагу да тэрытарыяльнае цэльнасьці Беларусі, падкрэсьліўшы, што гэта вызначае непахіснасьць яе сувэрэнітэту. Удзячныя беларускія ўлады у адказ пацьвердзілі, што ў сьвеце існуе толькі адзіны Кітай — з Тайванем аднасінаў яны падтрымліваць не жадаюць.

Гэты свой галаўны боль кітайцы, пэўне, згадваюць паўсюль, дзе здарыцца нагода. У сумеснай заяве яны выказаліся супраць удзелу Тайваня ў ваенных дзеяньнях у Азыяцка-Ціхаакіянскам рэгіёне. Нягледзячы на тое, што Беларусь ніякага дачыненьня да гэтае мясцовасьці ня мае, яе ўлады актыўна падтрымалі кітайскі пратэст.

Беларускія дыпляматы наагул прынялі кітайскую пазыцыю адносна важнейшых міжнародных пытаньняў. Такой, пэўне, была ўдзячнасьць за абяцаную гуманітарную дапамогу Беларусі.

Ху Дзіньтао паляцеў на радзіму, пакінуўшы Лукашэнку запрашэньне ў госьці. Жаданае падарожжа плянуецца зьдзейсьніць у наступным годзе.

МАРГИНАЛИИ

# О ВРЕДЕ ВИНА И РОМАНТИЗМА

**Жак Простаков**

**Французское правительство готово признать автономию Корсики, поступившись, таким образом, одним из основополагающих принципов республики — централизмом. Противники автономии полагают, что пакт с корсиканцами — ящик Пандоры. Ежели его приоткрыть — Франция обречена вернуться во времена средневековой раздробленности. Во всей этой истории определенно виноваты писатели и алкоголь.**

Начнем с писателей. В 1829 году Проспер Мериме опубликовал новеллу «Маттео Фальконе» о том, как корсиканский крестьянин убивает кровного сына за то, что малыш выдал жандармам скрывавшегося бандита. Сопляк нарушил закон молчания «омерта» и должен был умереть.

Жуткая история потрясла воображение современников. В мгновение ока корсиканский бандит стал кумиром романтизированной парижской богемы. Успех произведений Мериме подвинул десятки писателей (среди которых были Флобер и Дюма) отправиться на родину Наполеона, чтобы найти и живописать хоть какого-нибудь, самого завалящего разбойника-корсиканца. Затем орды курортников с континента стали ломиться в корсиканские горы.

Бандит на Корсике и без туристов был человек уважаемым. В глазах крестьян он был воплощением института традиционного права, ходячим вызовом абстрактным законам, насаждаемым государством. Бандита уважали и укрывали от властей. А он, схоронившись в маки (заросли кустарника), мог беспечно жить 10–20 лет. Когда же бандитами заинтересовались городские красотки и журналисты, их статус вообще пошел в гору.

Сам бандит как персонаж постепенно стал для островитян таким же близким и родным, как для нас образ Ивана-дурака. Качества бандита стали приписывать всем стопроцентным корсиканцам. Поэтому и неудивительно, что когда на острове стали возникать местные политические движения, их лидеры в качестве примера подражания выбрали себе романтиков с большой дороги. Отсюда до терроризма был один шаг.

Не хватало лишь повода. Им и стал алкоголь. В начале 70-х остров заполонили беженцы-французы из Алжира, где арабы добились независимости. Эмигранты принесли с собой развитую винную культуру, которая начала быстро вытеснять местные корсиканские «чернила». Такого издевательства патриоты не потерпели.

Инициатором вылазки выступила совершенно умеренная Корсиканская Региональная Акция (АРК). В местечке Аллерия ею были захвачены винные погреба, принадлежащие эмигрантам. А потом министр внутренних дел Понятовски допустил роковой промах, распорядившись применить против захватчиков погребов оружие. Два человека при штурме было убито. С того момента остров является свидетелем бесконечной вендетты между жандармами и националистами. Противостояние достигло кульминации в 1986 году, когда правый министр Шарль Паскуа выдвинул лозунг *«терроризировать террористов»*. В ответ корсиканцы установили рекорд, не побитый до сих пор не одной экстремистской организацией планеты. За одни сутки 1 сентября 1996 года они провели 26 терактов.



Символ Корсики

13 декабря 1999 года депутаты корсиканской ассамблеи и французский премьер Жоспен сели за стол переговоров, чтобы обсудить будущий статус острова. Однако процессы, происходящие на Корсике, вызвали праведный гнев у французских республиканцев, которых местная пресса прозвала *«якобинские динозавры»*. В готовящемся законе об автономии Корсики министр внутренних дел Жан-Пьер Шовенман усмотрел бомбу замедленного действия против территориальной целостности Франции (кроме корсиканцев, автономного статуса требуют бретонцы, французские баски, эльзасцы и даже аквитанцы). Шовенман заявил, что в знак протеста готов хоть завтра уйти в отставку.

Общество словно оцепенело. Демарши Шовенмана аналогичны поведению французских силовиков сорокалетней давности, когда алжирские террористы принудили президента Шарля де Голля поставить вопрос о независимости бывшей провинции. Тогда все это кончилось кризисом правительства, попыткой военного переворота и целой серией взрывов и покушений, за которыми стояла зловещая организация французских военных ОАС. Премьер-министр Жоспен вынужден успокаивать публику, угождая и тем, и этим. Выхода из кризиса не видно.

Вот к чему привело французов нездоровое увлечение вином и романтическими новеллами Проспера Мериме.

ОБЗОР ЗАПАДНОЙ ПРЕССЫ

# В ЧЕХИИ ГРЯДУТ БЕСПОРЯДКИ

**Олег Ненеруда**

**Белорусским туристам придется на какое то время забыть про красоты Пражского Града, источники Карловых Вар и чудесное пиво «Будвайзер». Похоже, в сентябре Чехия опять ужесточит визовый режим. Не пугайтесь, наша родная мафия здесь не причем. Просто в Праге готовится социалистическая революция.**

В Интернете появилась информация, что в сентябре чешскими МИДом будет ужесточен порядок выдачи виз иностранцам. Все потому, что на сентябрь в Праге назначено проведение сессии Мирового банка и Международного валютного фонда, на который, как мухи на пирог, слетятся все радикалы на планеты. Чем чреваты такие сборища, мы уже знаем на опыте Сиэтла, где в конце минувшего года 40000 демонстрантов, выступающих против всего — от убийства морских черепах до концентрации экономической власти, парализовали саммит ВТО. Местом следующей вылазки радикалов стала столица США, где проходила сессия МВФ. Вашингтонская полиция оказалась лучше подготовленной, чем ее коллеги из Сиэтла, но все-таки не смогла остановить анархистов, заблокировавших делегатов саммита в каком-то здании.

Потом был Первомай в Лондоне и Гамбурге с поджогом «Макдоналдсов» и баррикадными боями. Сегодня радикальные группы планируют новую коварную операцию *«Сделаем из Праги новый Сиэтл!»*

Местом встречи всех радикалов планеты стали сайты Интернета, где идет бурная дискуссия, как организовать глобальное побоище с полицейскими на уютных улочках Града. Ее участники — представители разнообразных групп, большинство которых базируются в Соединенных Штатах и Западной Европе.

Чешские чиновники заявили, что предпримут многочисленные превентивные и профилактические мероприятия, чтобы защитить саммиты Мирового Банк и МВФ от столкновений, которые стали неотъемлемой частью глобальных экономических встреч на высшем уровне. Около 11 тысяч чешских полицейских будут обеспечивать безопасность 15 тысяч участников саммита из более чем 180 стран, включая глав правительств, министров, председателей центробанков и олигархов.

Слухи о предстоящих беспорядках так напугали многих пражан, что они планируют выехать вместе с семействами в другие регионы страны. Школы будут закрыты, а коммерческие учреждения сократят персонал до минимума. Чешские чиновники боятся, что дешевизна пражского сервиса привлечет гораздо больше бунтарей, чем Сиэтл, Женева или Лондон. Страна готовится к битве. Спецслужбы интенсивно берут уроки у ФБР.

С другой стороны, организаторы саммита пытаются установить диалог с антиглобальным движением, чтобы избежать конфронтации. Так, президент Вацлав Гавел приглашает на встречу перед саммитом умеренные антиглобалистские группы.

Кстати, в Беларуси тоже есть антиглобальное движение. Из Минска планировалось направить в Прагу целый автобус радикалов-анархистов и экологистов. Теперь, в свете визовых проблем, им, очевидно, придется пробираться в Прагу «огородами».

ПО СТРАНАМ И КОНТИНЕНТАМ

Американцы запатентовали новый шампунь против вшей. Вместо того, чтобы поливать головы детей (после того, как те вернутся из летнего лагеря или деревни) керосином, — теперь можно будет просто помыть волосы специальным шампунем, от которого вши и их личинки начнут светиться при ультрафиолетовом свете. После выявления паразитов их можно будет вычесать специальной расческой. Журнал «Нью сайентифик» уверяет, что 7% американских школьников страдает от вшей.



Главный советник республиканского кандидата в президенты США Джорджа Буша-младшего Кондолиза Райс заявила, что чеченская проблема — «внутреннее дело» самой России. Райс является наиболее доверенным лицом Джорджа Буша-младшего и в случае его победы на выборах займет пост советника президента США по национальной безопасности. Она также подчеркнула, что военная операция в Косово была «неверным решением».

Глухой американец из штата Техас выиграл в суде дело против местной полиции. Теперь полицейское отделение города Виктория должно выплатить потерпевшему $230.000. Всё дело в том, что 58-летний американец Обри Пайл был арестован полицией города Виктория за управление транспортным средством в нетрезвом состоянии и затем был препровождён в тюрьму на 3 дня. За это время полицейские так и не поняли, что имеют дело с глухим, хотя в его водительских правах это было записано. После освобождения он подал в суд на полицию, обвиняя её в том, что ему не были зачитаны права задержанного, так как он их просто этого не слышал, а также не был предоставлен адвокат. Кроме всего этого, результаты дополнительной экспертизы показали, что уровень алкоголя в крови Пайла не превышал допустимых норм. При таких обстоятельствах выиграть суд было делом техники, что и случилось.

Один из директоров японской компании «Хонда» 48-летний Мастоги Садо совершил харакири, выбрав местом для этого акта пакистанский город Лахор. Прибыв туда со своими двумя коллегами, чтобы читать 10-дневный курс лекций по менеджменту, Мастоги Садо вместо этого вышел на газон перед отелем «Перл Континентал», в котором остановился, снял, по древней традиции, обувь, после чего аккуратно вскрыл себе вены бритвой. В номере японского бизнесмена была обнаружена предсмертная записка, в которой он каялся перед руководством компании за совершенные им ошибки в управлении, а также просил прощения у своей семьи.

На этой неделе власти американского штата Калифорния намерены предпринять шаги, направленные на упорядочивание распространения марихуаны в медицинских целях, сообщает «Ассошиэйтед пресс». Властям не нравится то, что действующий уже четыре года закон штата никак не оговаривает разрешенную больным дозу «травки» и не предусматривает специальных удостоверений личности, дающих право на ее покупку. Недавно калифорнийский сенатор Джон Васконцеллос предложил законопроект, ужесточающий правила медицинского применения марихуаны.

В Ингушетии в лагере вынужденных чеченских переселенцев «Северный» катастрофа. Там ползает невероятное количество тараканов-мутантов. Мало того, что вид у них устрашающий (по размерам они превышают своих сородичей в 2–3 раза), так эти насекомые еще и на людей кидаются и кусаются. Но это еще не все неприятности. Укусы оказались ядовитыми. После них появляются огромные волдыри, как после ожогов, которые долго не заживают. Поэтому перед сном жители обматывают головы. Еще насекомые с легкостью прогрызают пакеты с едой. Как с мутантами бороться, не знает никто. Пока понятно лишь одно — средства, которые используют для борьбы с обычными тараканами, на этих вообще не действуют.



Палестинское государство будет провозглашено 13 сентября сего года независимо от внешних условий. Об этом заявил в своем последнем интервью лидер палестинской автономии Ясир Арафат. Израиль, таким образом, будет просто поставлен перед фактом.

В понедельник югославское правительство арестовало четырех иностранцев, утверждая, что они готовили похищение диктатора Милошевича. Белградские власти считают, что киллеры были заказаны Гаагским трибуналом по правам человека, который таким оригинальным образом решил препроводить Милошевича на свое заседание. Пол Ристли - представитель трибунала — прокомментировал заявление Белграда одним словом: *«Кино!»*

